Гродна
№22 (504),
2 снежня 2018
www.slowo.grodnensis.by

Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# АДВЭНТ І НОВЫ ГОД

Перыяд Адвэнту
Перыяд Нараджэння Пана
Звычайны перыяд
Перыяд Вялікага Посту
Пасхальны Трыдуум
Велікодны перыяд
Звычайны перыяд

Надышоў Новы год... Мяркуеце, памылка? Так, да чарговага каляндарнага года чакаць яшчэ месяц, аднак у нас, католікаў, ён ужо наступіў. Перыяд Адвэнту распачаў у Касцёле Новы Літургічны год.

● працяг на с. 3

“Адвэнт нагадвае падарожжа з Богам, якое ніколі не заканчваецца”. Папа Францішак




**І НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ**
**Лк 21, 25–28. 34–36**

Езус сказаў сваім вучням: "Будуць знакі на сонцы і месяцы, і зорках, а на зямлі – спалох народаў і замяшанне ад гулу марскога хвалявання. Людзі будуць млець ад страху і ад чакання таго, што прыйдзе на свет, бо захістаюцца моцы нябесныя. І тады ўбачаць Сына Чалавечага, які будзе ісці ў воблаку з моцаю і славаю вялікай. Калі ж гэта пачне адбывацца, тады выпрастайцеся і падыміце галовы вашыя, бо набліжаецца адкупленне вашае. Зважайце ж на сябе, каб сэрцы вашыя не былі абцяжараныя пахмеллем і п'янствам, і жыццёвымі клопатамі, і каб дзень той не застаў вас неспадзявана, як пастка. Бо ён прыйдзе на ўсіх, хто жыве на паверхні ўсёй зямлі. Дык чувайце ўвесь час і маліцеся, каб вы маглі пазбегнуць усяго таго, што павінна адбыцца, і стаць перад Сынам Чалавечым".

## ЧУВАЙМА

Варта заўсёды быць гатовымі. Нястомна чуваюць урачы, міліцыя, ратаўнікі, пажарныя, салдаты... У стане духоўнай гатоўнасці павінны знаходзіцца мы ўсе, паколькі не ведаем ні дня, ні гадзіны.

Вельмі небяспечная тая хвіліна, калі першы раз ужываем слова "заўтра" ці "потым". З гэтага моманту бярэмся адкладваць нават важныя справы, пачынаем жыць і дзейнічаць так, нібы маем бязмерную колькасць часу.

Адвэнт заахвочвае нас да нястомнага чування, каб не праспаць тую найважнейшую хвіліну, калі будзем судзімыя з любові. Гэты перыяд з'яўляецца таксама часам роздуму і падрыхтоўкі, часам суцішэння і больш глыбокай малітвы, часам, каб нанова ўпарадкаваць сваё жыццё, часам радаснага чакання не толькі свят Божага Нараджэння, але і будучай сустрэчы з Богам у вечнасці. Пан прагне застаць нас падрыхтаванымі, а не дрэмлючымі, каб разам з Ім змаглі жыць у вечным шчасці ў Небе.

**Ствары, о Божа, ува мне новае сэрца, каб умела дзяліўся Тваёй любоўю з тымі, хто яе яшчэ не спазнаў. Дапамажы мне добра падрыхтавацца да свят Божага Нараджэння, а таксама да Твайго паўторнага прыйсця.**

**ІІ НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ**
**Лк 3, 1–6**

У пятнаццаты год панавання Тыберыя цэзара, калі Понцій Пілат панаваў у Юдэі, а Ірад быў тэтрархам у Галілеі, Філіп, брат ягоны – тэтрархам у Ітурыі і Траханідскім краі, а Лізанія – тэтрархам у Абіленах; пры першасвятарах Анне і Каяфе, было скіравана слова Божае да Яна, сына Захарыі, у пустыні. І ён абходзіў усе ваколіцы Ярдана і прапаведаваў хрост пакаяння для адпушчэння грахоў, як напісана ў кнізе прамоў прарока Ісаі: "Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму! Кожная даліна ўзвысіцца, кожная гара і пагорак панізяцца, і выбоістыя дарогі стануць раўнінай, і ланцугі гор – далінаю. І ўбачыць кожнае цела Божае збаўленне".

## НАВЕРНЕМСЯ

Наша жыццё часта падобнае на крутую дарогу. Часам адну руку мы працягваем Пану, а другую – Яго непрыяцелю; адну палову сэрца ахвяруем Усемагутнаму, а другую пакідаем сабе; адзін крок робім у бок Збаўцы, а два наступныя скіроўваем у адваротным напрамку... Патоп зла заліў хрысціянскі свет, аддзяляючы стварэнне ад Стварыцеля. Аднак Нябесны Айцец чакае, каб мы прынеслі Яму цэлыя сэрцы, каб падалі абедзве рукі. Прагне, каб ішлі да Яго прамой дарогай, каб былі "чыстымі і бездакорнымі" ў дзень нараджэння Яго Сына.

Касцёл заклікае нас словамі св. Яна Хрысціцеля, які заахвочваў людзей раўняць сцежкі свайго жыцця. Гаворка ідзе не пра шашу і магістралі, а пра скамянелыя сэрцы; не пра выбоіны на дарогах, а пра пустыя душы; не пра шлагбаумы, якія запавольваюць рух, а пра грахі, што перакрываюць шлях да Усемагутнага.

Варта памятаць, што без Бога ў сэрца ніколі не прыйдзе Божае Нараджэнне. Таму давайце падрыхтуем дарогу Пану ў нашу душу і наш дом – і тады ўбачым Збаўленне.

**Хрыстэ, учыні, каб маё сэрца было створана для Цябе. Я ўсё больш пераконваюся, што маё збаўленне толькі ў Табе, ад Цябе паходзіць усякая ласка і моц. Ты з'яўляешся маёй адзінай крэпасцю!**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Пільнуйма сваё сэрца!

*Разам з распачаццем новага літургічнага года "наступіла гадзіна прабудзіцца нам ад сну. Таму адкінем учынкі цемры і апранёмся ў зброю святла" (Рым 13, 11–12). І будзем памятаць, што "плод святла ёсць ва ўсялякай дабрыні, справядлівасці і праўдзе" (Эф 5, 9).*

Многія набожныя ізраільцяне, якія чакалі прыходу Месіі, не заўважылі Яго нараджэння, знакі і цуды, якія Ён здзяйсняў. Не распазналі таксама Збаўцу, які аб'явіўся пасля свайго ўваскрасення. І да сёння цэлыя народы яшчэ не вераць у Хрыста, не прымаюць Яго збаўлення. Аднак дастаткова шмат ёсць таксама тых, хто прызнае Сына Чалавечага, хто чакае Яго паўторнага прыходу.

З кожным днём мы ўсё больш набліжаемся да паўторнага прыйсця Збаўцы на зямлю. Сам Езус неаднаразова папярэджваў: "Чувайце, бо не ведаеце, у які дзень Пан ваш прыйдзе" (Мц 24, 42).

У прарока Ісаі чытаем: "І станецца ў апошнія дні, што гара дому Пана будзе пастаўлена на вяршыні гор і ўзвысіцца па-над пагоркамі" (Іс 2, 2). Тымі невядомымі "апошнімі днямі" з'яўляецца хвіліна нашай смерці. Безумоўна, гэта таямнічы і прыгожы момант, бо чалавек сустракаецца з міласэрным Панам Усемагутным, адчувае ўсёабдымнае Святло. Бласлаўлёны, насамрэч шчаслівы той, хто можа ў Яго акунуцца, застацца ў Ім і цешыцца сапраўдным спакоем і вечным жыццём. Каб стаць радасным удзельнікам Парузіі, трэба трымацца ў Святле Пана, хадзіць сцежкамі Божых запаведзей і бласлаўленняў ды старанна пільнаваць сваё сэрца.

Езус прыходзіць на свет, каб збавіць кожнага чалавека! Мы не можам гэтага ігнараваць. Нельга таксама забывацца, што для збаўлення душа патрабуе навяртання. Хрыстос абяцаў, што калі адчынім перад Ім дзверы сваёй душы, Ён увойдзе і паселіцца там. Таму мы павінны ахоўваць дарогу, якая туды вядзе, каб не ступіў на яе злы дух, не пранiклі сумненні ў міласэрнасці Нябеснага Айца, абыякавасць да Божых спраў, пагарджэнне ўзаемнай любоўю.

**Дарагія Чытачы!**

Дазволім, каб у час Адвэнту Бог аднавіў нашыя сэрцы і асвяціў іх сваёй ласкай. Адкрыемся на прыход Збаўцы!

Наводзячы святочныя парадкі, гатуючы арыгінальныя стравы на стол, не будзем забывацца пра сутнасць свят. Памятайма аб дапамозе людзям, закранутым хваробай ці калецтвам, аб удзячнасці ўсім тым, хто аказвае нам дабро і падтрымлівае ў цяжкія хвіліны жыцця.




З лацінскай мовы "adventus" значыць "прыйсце". Вельмі дарэчнае слова для гэтага перыяду. Яно гаворыць аб дарозе, магчыма, цёмнай і золкай, нецярплівым чаканні, няспешнай або, часцей, інтэнсіўнай падрыхтоўцы... Так, маем на ўвазе высілак, і то немалы; але прыйсце – гэта і сустрэча, вокліч "Нарэшце!", радасць, усмешкі...

Прыйсце не павінна знянацку застаць чалавека, які ідзе, утаропіўшыся сабе пад ногі. Дзякуючы Адвэнту перад Божым Нараджэннем можна спакойна выдыхнуць: яшчэ ёсць час. Перад намі дарога амаль у цэлы месяц. Адвэнт выглядае выразным рухам да свята, да новага года. Спадарожнікам робіцца чаканне, а поруч з ім ідуць малыя і вялікія справы, клопаты, развагі. Цікава, што ў адвэнтавым вянку кожную нядзелю загараецца на адну свечку больш. Шлях нібы становіцца святлейшым, прадчуванне сустрэчы са Збаўцам – больш выразным.

Гэта вельмі красамоўны вобраз – прыход доўгачаканага Сябра, якога хочацца прыняць найлепшым чынам. Яго нічым асабліва ўжо не здзівіш, але, тым не менш, спрабуем штосьці прыдумаць, нешта плануем, глядзім на каляндар, на гадзіннік... Каб Госць мог некуды ўвайсці, трэба хаця б крыху вольнай прасторы. Калі жылое памяшканне мы імкнёмся ўпарадкоўваць рэгулярна, то ўнутраную працу над сабой часцей за ўсё адкладваем да Адвэнту, а потым (бо ўсё роўна не паспелі) – на Вялікі пост. А менавіта гэтая праца і патрабуе часу. Нават больш: яна вартая таго часу, якога патрабуе. Гаворка ідзе пра спакойнае слуханне сэрца, якое ведае найлепш, што будзе прыемна Богу.

Сапраўдныя натхненні прыходзяць "лёгкімі крокамі", як сонечныя промні, як светлыя здагадкі. Трэба вучыцца адрозніваць іх сярод розных дарог і сцежак, прымаць як каштоўныя дары Духа і ісці за імі. Бог штодня прамаўляе да нас ціхім Словам, сардэчнасцю блізкіх людзей, дапамогай незнаёмца, нават выклікамі, якія ставіць перад намі. Ён хоча гаварыць з іншымі праз нас, такіх нязначных, але дарагіх Яму. Кожнае Божае натхненне прыносіць свой добры плён. Пошук незаўважаных уплываў прыйдзецца рабіць падчас рахунку сумлення.

Адвэнтам таксама пачынаецца хада новага літургічнага года. Ці не зараз найлепшы час, каб вырушыць насуперак агульнай плыні ды ўласным хаценням ці нехаценням? Мы плылі па цячэнні вельмі доўга – так, як "усе жывуць", як патрабуе начальства на працы, натура – і апынуліся ў найцямнейшай пары года. Цяжка абмінуць гэты сімвалізм – Бог прыходзіць у свет, які ўсё больш спаўзае ў цемру. Адвэнт становіцца светлым часам чакання, бо прыпамінае, што Бог з намі, ужо сярод нас.

Калі зараз не распазнаем Яго запрашэнне пайсці супраць цячэння, угору, то нас не ўратуе штучна створаны калядны настрой. Можна прыбраць пакоі, накупляць падарункаў, гірляндаў, зрабіць прыгожыя здымкі – і ўжо на свята Божага Нараджэння адчуць горкі смак невядомай страты. Магчыма, некаторыя ўжо адкрылі для сябе, што свята наступіла б і без складанай падрыхтоўкі, усё паспець. У чым тады яго сэнс? Навошта гэта ўсё? Сапраўды, маркотная тая страта – страта прыйсця, якое ўжо адбылося ў гісторыі часу. Езус прыйшоў і застаўся, пасяліўся сярод нас, каб мы ведалі, куды ісці і як ісці – за Ім – не толькі на Вігілію, але сёння, цяпер.

Добрая Навіна таксама ў тым, што Езус Хрыстус прыйдзе на зямлю 2-гі раз. Традыцыя Касцёла нястомна нагадвае аб гэтым менавіта ў Адвэнце. Прамаўляе, здаецца, вельмі агульна, вобразна, але насамрэч ставіць пытанне кожнаму навпрост: "Ты чакаеш?". Не іншаму камусьці, а менавіта мне. Ці тое, што я раблю, аб чым мару, што абіраю і дзе шукаю суцяшэння, мае прыкметы жывога чакання Езуса Хрыста? Як Ён паглядзіць на гэта ўсё, калі прыйдзе?

Калі зірнуць на сябе ў такой неабсяжнай перспектыве прамінаючага і будучага веку, часовага свету і вечнасці, можна лёгка згубіцца, нібы стаць непрыкметнай кропачкай у шэрагах народаў і пакаленняў. Але таксама можна адкрыць сябе ў Божых вачах. Сапраўдная пакора не ў тым, каб адчуваць сябе нічым, але нічым без Бога.

У гэтай рэчаіснасці чакання прыходу Хрыста на свет варта ўзяць у прыгаршні сваё жыццё і прынесці да Збаўцы. Зноў і зноў знаходзіць свой шлях, вяртацца з бездарожжаў, вучыцца слухаць, рыхтаваць Яму месца, верыць і чакаць.

*Тэрэса Клімовіч*

# Адвэнт і Новы год

працяг са с. 1

Прызнаюся, я свядома пішу словы "Новы Літургічны год" з вялікай літары. Чаму? Проста хачу, каб кожны, хто гаворыць, што верыць у Хрыста, што быў ахрышчаны ў Хрыстовым Касцёле, звярнуў увагу на тое, што Новы год ужо наступіў.

З гэтай нагоды можна прыпомніць сабе, як людзі, у тым ліку і веруючыя, святкуюць наступленне новага часу ў 00.00 1 студзеня. Святло і ўключаныя экраны тэлевізараў амаль што ў кожным акне, застолле, шмат розных страў... Феерверкі, петарды, бенгальскія агні: усё вельмі ярка, прыгожа. А калі пазней пешшу ідзеш у касцёл на ўрачыстую св. Імшу на ўшанаванне Святой Багародзіцы Марыі, бачыш толькі пустыя, бязлюдныя вуліцы і чуеш цішыню. Не, не тую цішыню, якая дапамагае хрысціяніну разважаць над сваім жыццём і пакліканнем, якая адрывае ад няспыннай штодзённай спешкі і пагружае ў рэчаіснасць уласнай душы і яе адносін з Богам, якая дапамагае навярнуцца, стаць на шлях да Божага Валадарства, апрануцца "ў новага чалавека, створанага паводле Бога" (параўн.: Эф 4, 24)... Гаворка ідзе зусім пра іншую цішыню.

Я апісваю гэтую карціну так выразна, таму што амаль усё сваё жыццё правёў у горадзе. Ужо будучы святаром, служыў пераважна ў гарадскіх парафіях. Хтосьці скажа, што ў вёсцы ўсё адбываецца інакш. Магчыма, гэта так. Аднак мне здаецца, што выразы "Новы год" і "новы чалавек, створаны паводле Бога", на жаль, далёка не заўсёды суаднесціца паміж сабой у жыцці вернікаў незалежна ад таго, дзе яны жывуць. Магчыма, я памыляюся. Але для вельмі вялікай часткі тых, хто называе сябе католікамі, Новы год духоўнага жыцця наступае ў Вербную Нядзелю, на Вялікдзень ці ў дзень перад Вялікаднем, магчыма яшчэ, на Божае Нараджэнне...

У адрозненне ад каляндарнага, Новы Літургічны год мы не сустракаем салютамі, воклічамі і вясёлымі песнямі. Касцёл нас вучыць, што гэта час радаснага чакання на прыйсце Езуса Хрыста. Для кагосьці Адвэнт можа здавацца сумным і нецікавым часам, аднак гэта заўсёды новы шанс наблiжэння да Бога.

Гісторыя збаўлення чалавека ў Адвэнце нібы распачынаецца нанова – ад Уцелаўлення Божага Сына. Літургічныя чытанні, узятыя са Старога Запавету, падаюць нам прадказанні прарокаў аб тым, што Бог збавіць свой Народ, не пакіне яго ў нядолі, спашле Вызваліцеля, які знішчыць грэх, у каторы ўблыталіся людзі, трапляючы ў духоўную няволю.

Пан Бог у сваім Слове нясе надзею збаўлення таксама нам, пакаленням XXI стагоддзя. Але каб асягнуць збаўленне, Бог патрабуе ад чалавека сёння, як і ў мінулыя часы, пэўных крокаў насустрач. Так кажа абвяшчальнік Божага слова святы прарок Ян Хрысціцель: "Падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму! Кожная даліна ўзвысіцца, кожная гара і пагорак панізяцца, і выбоістыя дарогі стануць раўнінай, і ланцугі гор – далінаю" (Лк 3, 4–5). З часоў Старога Запавету даносіцца да нас словы Пана Бога: "Звярніцеся да Мяне, усе межы зямлі, і будзеце збаўлены, бо Я – Бог, і няма іншага!" (Іс 45, 22), "Захоўвайце правасуддзе і чыніце справядлівасць" (Іс 56, 1), "Пакайцеся, адвярніцеся ад ідалаў вашых, і ад усіх мярзотаў адвярніце вочы вашыя!" (Эз 14, 6). Словы Пана Бога ўвасабляюцца ў кароткім закліку Езуса Хрыста на пачатку сваёй дзейнасці: "Кайцеся і верце ў Евангелле" (Мк 1, 15).

Бог вучыць, што нашае жыццё не павінна заставацца такім, якім было раней. Яно мусіць змяніцца, і змена павінна адбыцца ў лепшы бок. Гэтаму пераменнаму жыцця да лепшага служыць Божая ласка, якая будуе святасць чалавека на яго сталым жаданні змяніцца і канкрэтных добрых учынках. Таму Касцёл заахвочвае кожнага вызнаўцу Хрыста зрабіць у Адвэнце канкрэтную пастанову працы над сабой. На жаль, часта можна пачуць ад вернікаў: "Маё жыццё немагчыма змяніць да лепшага. Колькі б я не стараўся, мае грахі зноў і зноў вяртаюцца да мяне. Не магу стаць ідэальным, бязгрэшным. Такім чынам, мая праца над пераадоленнем слабасцей не мае сэнсу". Але калі чалавек прынамсі спрабуе змяніць сваё жыццё, ён знаходзіцца на правільным шляху, нават тады, калі не ўсё ў яго атрымаецца. Як гаворыцца ў адным вядомым выслоўі, прайграе вайну з грахом не той, хто прайграе адну бітву, а той, хто перастаў бараніцца і наступаць. Для Бога хопіць нават толькі нашага жадання выправіцца. Аднак яно павінна быць сталым, моцным, няспынным. Астатняе шмат у чым залежыць ад Божай ласкі.

Можа, варта распачаць змену жыцця ад пакідання "ідалаў", г. зн. таго, што нас адцягвае ад Бога, нават калі не з'яўляецца дрэнным само па сабе. Магчыма, варта пакінуць кругласутачны прыём гасцей, прагляд тэлеперадач, залішні адпачынак, адмовіцца ад непатрэбнай працы, а нават адкласці патрэбную, каб мець час на нядзельную св. Імшу. Магчыма, трэба перанесці на іншы тэрмін святкаванне гучных вяселляў і Дзён нараджэння, каб не заглушыць у сэрцы Божы голас, які нас заклікае да няспыннага чування і навяртання. Верагодна, настаў час звярнуць увагу на тое, як мы выконваем нашы абавязкі, каб яшчэ лепш служыць сваім жыццём бліжнім. Нешта ўсё ж трэба змяніць да лепшага.

У рэалізацыі гэтага задання нам дапамагае Марыя, Маці Божая, якая таксама перажывала Адвэнт свайго жыцця, носячы пад сэрцам Езуса. У Адвэнце асабліва ўшаноўваем Яе падчас ратэрніх св. Імшаў, дзе Багародзіцу сімвалізуе ратэрняя свечка з вялікай літарай "M". Марыя ярчэй за свечку асвятляе цемру нашага жыцця, паказваючы напрамак да Бога. Гэтае "святло Марыі" заўсёды неабходна.

Няхай час чакання і чування першага і другога прыйсця Пана будзе напоўнены радасцю і надзеяй на збаўленне ў Хрысце. Няхай станецца для нас плённым працягам духоўнай барацьбы са злом, грахом і сатаной у нашым жыцці і часам веры ў перамогу. Няхай касцёльны Новы год стане новай магчымасцю сустрэчы са Збаўцам і яшчэ большага духоўнага з'яднання з Ім у любові, каб апрануцца "ў новага чалавека, створанага паводле Бога".

**Віншую ўсіх Вас з Новым Літургічным годам!**

*Кс. Павел Эйсмант*



## МАЛІТВА НА АДВЭНТ

**Усемагутны Божа, забяры ў мяне ўсе ганарлівыя думкі, жаданні маёй уласнай славы, зайздрасць, хцівасць, абжорства, ляноту і пажаднасць, пачуццё гневу, прагу помсты, жаданне або радасць ад няшчасцяў іншых, прыемнасць ад давядзення іх да злосці і гневу, задавальненне ад абвінавачвання ці зневажэння кагосьці няшчаснага ці абяздоленага. А ва ўсіх маіх учынках, словах і думках адары мяне, добры Божа, сэрцам пакорным, сціплым, ціхім, згодным, цярплівым, міласэрным, ласкавым, чулым і літасцівым, так, каб я спазнаў Святога Духа.**

**Дай мне, добры Божа, сапраўдную веру, моцную надзею і палымяную любоў. Такую любоў да Цябе, якая б пераўзыходзіла непараўнальна любоў да самога сябе, каб не любіў нічога, што магло б Табе не спадабацца, але ўсё, што люблю, каб любіў у Табе.** Амэн.



## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

*Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*



*Езус, якога дапытвае Пілат, выразна пацвярджае, што не імкнецца да палітычнай улады: "Валадарства Маё не з гэтага свету" (Ян 18, 36) – але і не супярэчыць, што мае валадарства, сутнасць і натура якога адрозніваюцца ад зямнога. Хрыстос не абвяргае тытул караля, якім Яго надзяляюць, але ўказвае на яго глыбокі сэнс. Езус з'яўляецца Валадаром Сусвету, таму што Ён – Сын Божы, таму што разам з Богам Айцом і Святым Духам з'яўляецца Стварыцелем усяго бачнага і нябачнага. Акрамя гэтага, Ён – Валадар Сусвету, таму што праз сваё Уцелаўленне, Смерць і Уваскрасенне стаў Збаўцам, гэта значыць Тым, хто ратуе свет ад грахоўнага краху.*

*Валадарства Хрыста істотна адрозніваецца ад валадарстваў гэтага свету. Бязмежная любоў, міласэрнасць, цярплівасць і лагоднасць характарызуюць нашага Нябеснага Валадара і ствараюць атмасферу Яго Валадарства. Без гэтых уласцівасцей вялікія валадарствы і імперыі занапалі, але Валадарства Хрыста існуе і будзе існаваць далей. Толькі любоў з'яўляецца ўстойлівым падмуркам кожнай цывілізацыі. Зямныя правіцелі ў войнах і рэвалюцыях пралілі шмат людской крыві, каб заваяваць свет. Хрыстос у сваёй "рэвалюцыі" таксама праліў кроў, але не чужую, а ўласную, і стварыў "імперыю" любові, Валадарства Хрыстова!*

*Фрагмент Ліста на ўрачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету*

*Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Святарства не толькі з'яўляецца ласкай для самога прэзбітэра – гэта дар для ўсёй супольнасці Касцёла. Падобна як кансэкраваныя хлеб і віно ў Эўхарыстыі становяцца жыватворным духоўным спажыткам для ўсяго Божага люду, так і святар, кансэкраваны праз сакрамант пасвячэння, становіцца слугой Касцёла, каб, верна выконваючы сваю місію, весці сваіх братоў і сясцёр у веры да Хрыста – Даўцы вечнага жыцця.*

*Ніколі нельга ўспрымаць святарства ні як нагоду для ўзвышэння сябе над іншымі, ні як спосаб здабыцця прызнання і прывілеяў, ні як крыніцу якіх-небудзь іншых зямных выгод. [...] Святар з'яўляецца слугой Хрыста, пазычае Яму ўласны голас, сілы і здольнасці, каб Сын Божы, які жыве і дзейнічае ў сваім Касцёле, карыстаючыся святаром як прыладай, нястомна здзяйсняў справу збаўлення. Таму ўсё, што робіць святар, [...] павінна выконвацца з вялікай верай і пакорнасцю, з найбольшай стараннасцю і руплівасцю, з пачуццём абавязку і асабістай адказнасці.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас святарскіх і дыяканскіх пасвячэнняў у гродзенскай катэдры, 17.11.2018*




◆ *Папа Францішак наведае Марока 30–31 сакавіка 2019 года. Яго падарожжа ахопіць Рабат і Касабланку. З нагоды заяўленых планаў Святога Айца арцыбіскуп Рабата Крыстобаль Лопес напісаў ліст да вернікаў, просячы іх аб малітве ў намеры добрага плёну гэтага паломніцтва. "Пантыфік выбірае нас, такіх «няважных у вачах свету», – зазначае абп Лопес. – Прыбывае на землі ісламу, каб падтрымаць хрысціянска-мусульманскі дыялог, каб нас, католікаў, умацаваць у веры, а таксама дапамагчы развіццю экуменізму, якім жывём на кожны дзень".*

◆ *Ватыкан звярнуў увагу на небяспеку, якой з'яўляецца павышэнне ўстойлівасці да антыбіётыкаў. "Гэта пагражае здароўю і развіццю цэлых народаў", – перасцярог прэфект Дыкастэрыі па справах інтэгральнага развіцця чалавека кард. Пітэр Тарксан. Іерарх зрабіў акцэнт на наступствах усё большай устойлівасці мікробаў і, у выніку, больш свядомым выкарыстанні антыбіётыкаў. Такім чынам, Каталіцкі Касцёл далучаецца да старанняў міжнароднай супольнасці аб абмежаванні ўжывання антыбіётыкаў і да лепшага інфарміравання на гэтую тэму.*

◆ *Канферэнцыя епіскапату Партугаліі звярнулася да ўрада сваёй краіны, заклікаючы адказных асоб змагацца з гандлем людзьмі. Біскупы нагадалі пра шматлікія за апошні час паведамленні аб існаванні груп кантрабандыстаў, якія спецыялізуюцца на гандлі "жывым таварам". Як адзначыў старшыня партугальскай Канферэнцыі епіскапату кард. Мануэль Клементэ, да барацьбы са з'явай кантрабанды людзей заклікана не толькі палітыкі, але таксама мясцовае грамадства.*

◆ *У рамках праекта "Вяртаем ва Украіну культурную спадчыну" ў Львоўскім музеі гісторыі рэлігіі адбылася прэзентацыя факсімільнага выдання Лаўрышаўскага Евангелля XIV ст. Над ім працавала выдавецтва "Горобець" пры садзейнічанні Украінскага культурнага фонду. Як маркуюць, рукапісная пергаментная славутасць створана на заказ князя Войшалка Міндоўгавіча. Перапісана для Лаўрышаўскага манастыра паблізу Навагрудка ў Беларусі. Пасля закрыцця манастыра манахі перадалі кнігу князю Адаму Чартарыйскаму. У 1872 годзе Евангелле ўнесена ў Спіс рукапісаў архіва князёў Чартарыйскіх у Кракаве.*

◆ *Вядомая ў свеце абаронца ненароджаных дзяцей Мэры Вагнер правяла ў турмах Канады 6 гадоў. Ёй быў вынесены прысуд за тое, што распавядае ў прыватных абартарыях цяжарным жанчынам, што аборт – гэта забойства. Па некаторых сведчаннях, каля ста асоб адмовіліся ад аборту пасля гутаркі з Мэры. Некалькі разоў перад заключэннямі жанчыне прапаноўвалі кампраміс: меншы тэрмін за абяцанне не наблізіцца да абартарыяў, але яна не згаджалася, за што неадназова атрымлівала шматмесячныя зняволенні.*

*credo.pro; vaticannews.va; niedziela.pl*



## 3 снежня
### Міжнародны дзень інвалідаў

# У Гродне будуць шыць адзенне для інвалідаў

***Не сакрэт, што людзям з фізічнымі, разумовымі, сэнсарнымі або псіхічнымі адхіленнямі на свеце жывецца няпроста. Яны могуць звядваць пэўныя цяжкасці з перамяшчэннем, камунікацыяй. Нават такая звычайная рэч, як выбар адзення, часта становіцца праблемай.***



*Эксперыментальная калекцыя адаптыўнага адзення "Святаяннік"*

**У ПОШУКАХ КАМФОРТУ**

– Складана падабраць для сябе камфортнае адзенне. Я ўжо не кажу пра яго эстэтычны выгляд, –



распавядае Аксана Якуцэвіч, якая на працягу 13-ці гадоў перамяшчаецца на інваліднай калясцы. – Штаны ззаду задзіраюцца, пінжак скоўвае рухі. А спартыўным адзеннем абмяжоўвацца на штодзень не хочацца: усе без выключэння прагнем выглядаць прыгожа. Належу да прыгожай паловы чалавецтва і таму таксама хачу апранацца прывабна. Крытэрый гэты стаіць, канешне, не на першым месцы, але і не на апошнім.

Аксана дзеліцца, што шукала зручны для сябе варыянт адзення нават у магазіне для цяжарных жанчын. Знайшла там



***Валянціна Апановіч** – спецыяліст па сацыяльнай працы Гродзенскага дзіцячага хоспіса, супрацоўнік і каардынатар праекта "Коска".*

штаны з завышанай таліяй, аднак усё роўна давялося іх перарабляць, каб атрымаўся больш-менш прыдатны варыянт. Часам дзяўчына бярэ 2 пары джынсаў і "злучае" іх часткі паміж сабой. Такім чынам, сама адаптуе пад сябе адзенне, бо нават не ведае, дзе можна набыць нешта насамрэч зручнае.

– У Беларусі спецыяльнага адзення для людзей з абмежаванымі здольнасцямі не выпускаюць, – заўважае Валянціна Апановіч, супрацоўнік і каардынатар праекта па пашыве адаптыўнага адзення "Коска". – Ні ў Польшчы, ні ў Расіі няма. Інакш кажучы, у блізкім замежжы такога не сустрэнеш. Таму мы вырашылі адкрыць прадпрыемства, якое будзе шыць адзенне для людзей з інваліднасцю. Плануем запусціць яго ў Гродне ў 2019 годзе.

Валянціна распавядае, што ў лістападзе мінулага года яе каманда атрымала на конкурсе сацыяльных стартапаў SAP UP у Мінску гран-пры. Такім чынам праект па пашыве адаптыўнага адзення атрымаў сродкі на сваю далейшую рэалізацыю.

– Маем пэўную грашовую суму, каб закупіць тканіну, – тлумачыць Валянціна. – Магчыма, штосьці яшчэ застанецца на абсталяванне для прадпрыемства, на арэнду памяшкання.

Члены каманды ўжо прайшлі навучанне па сацыяльным прадпрымальніцтве, пасля чаго гатовы ўзяцца за працу.

– Захапіліся гэтай ідэяй, таму што разумеем: адаптаваць адзенне цяжэй. Прасцей зрабіць штосьці новае, улічваючы ўсе патрабаванні, чым перарабляць з таго, што ўжо маецца, – падкрэслівае Валянціна.

**З УВАГАЙ ДА ПАТРАБАВАННЯЎ**

– Трэба прадумаць усё да дробязей, – заўважае каардынатар праекта. – Вельмі важна падабраць натуральную тканіну, каб цела дыхала. Гэта асабліва прынцыпова для ляжачых хворых. Калі праігнараваць дадзены момант, у чалавека могуць з'явіцца пролежні. Адзенне павінна быць зручным для таго, каб яго надзяваць і здымаць. Гэта важна як для тых, хто знаходзіцца, напрыклад, на пасцельным рэжыме, так і для тых, хто даглядае за такімі людзьмі. Вельмі часта людзям з інваліднасцю даводзіцца ставіць катэтэр ці кропельніцу, таму неабходна, каб іх адзежу можна было лёгка расшпіліць у патрэбным месцы. Некаторым цяжка нават расшпіліць гузік. Для іх мы прыдумалі магнітныя заклёпкі, якія зверху будуць імітаваны пад гузікі.

– Для калясачнікаў трэба распрацоўваць лякала так, каб, напрыклад, ззаду на штанах не было карманаў, кнопак, каб нічога лішняга не непакоіла, – дадае Вольга Томчык, мадэльер-канструктар. – Каленкі павінны быць з вытачкамі, каб было камфортна сядзець і тканіна ў гэтым месцы не выцягвалася. Каб зручней было зняць штаны, прыдумалі спецыяльныя патайныя замкі з двух бакоў.

– А яшчэ прашу зважаць, так як я перамяшчаюся на інваліднай калясцы, у мяне вельмі хутка становяцца бруднымі рукавы, – дзеліцца Аксана. – Асабліва гэта непакоіць у слотную непагадзь. Бачу выйсце ў тым, каб у курткі былі, напрыклад, прагумаваныя або здымныя манжэты, каб мець магчымасць іх па неабходнасці памыць ці перамыць.

– У будучым будзем улічваць усе пажаданні, – гаворыць Валянціна. – Вядома, не можам ведаць усіх тонкасцей, аднак людзі з інваліднасцю могуць нам нешта падказаць, накіраваць. Калі не будзем



***Аксана Якуцэвіч** у 22-гадовым узросце атрымала траўму пазваночніка, пасля чаго не можа хадзіць. Цікавіцца індустрыяй моды. З'яўляецца экспертам у праекце "Коска".*

ведаць сваю мэтавую аўдыторыю, па-сапраўднаму адаптыўнага адзення не атрымаецца.

Каардынатар праекта адзначае, што каманда ўжо мае вопыт у гэтай галіне. Першая эксперыментальная калекцыя адаптыўнага адзення "Святаяннік" выйшла яшчэ да арганізацыі праекта "Коска" ў 2015 годзе. Было пашыта 15 мадэлей для дзяцей, якія знаходзяцца пад апекай Гродзенскага дзіцячага хоспіса, і іх мам.



Валянціна прызнаецца, што некаторыя нюансы высвятляюцца менавіта ў працэсе шыцця. Чалавека ўсё можа задавальняць, некаторыя тонкасці ўсплываюць пасля. Часта людзі сарамеюцца гаварыць пра свае праблемы, ім няёмка прасіць аб нейкіх канкрэтных рэчах.

– А можа, хтосьці нават не ўсведамляе, што можа быць па-іншаму? – задаю сустрэчнае пытанне.

– Магчыма, і так... – у задуменні пагаджаецца Валянціна. – У мяне ёсць табліца мерак, па якіх шые фабрыка, – заўважае мадэльер-канструктар. – І магу сказаць, што не сустрэла ніводнага чалавека, якім б ідэальна ім адпавядаў. А людзі з асаблівасцямі нестандартныя, пад кожнага з іх трэба падстройвацца.

– На прадпрыемстве адкрыем майстэрню, – дадае Валянціна. – Калі чалавеку патрэбна будзе нешта "падагнаць" пад яго, там бясплатна акажуць такую паслугу. Хочам наладзіць працэс так, каб можна было шыць і адразу на месцы напраўляць выраб пад канкрэтнага чалавека.

**НА ПЕРСПЕКТЫВУ**

– Адна з нашых галоўных задач – уладкаваць штат прадпрыемства, беручы на працу людзей з інваліднасцю, – гаворыць каардынатар праекта.

– А як жа спецыяльная адукацыя і вопыт працы? – пытаюся.

– Неабавязкова, – заўважае Вольга. – Шыць на машынцы па сілах навучыць чалавека, які хаця б валодае цярпеннем. Калі ён не падрыхтаваны да гэтай працы, можам навучыць яго пэўным аперацыям. Любы швейны працэс дзеліцца на часткі. Такім чынам, хтосьці будзе шыць каўнер, хтосьці – рукаў... Цудоўна, калі чалавек выкажа жаданне развівацца. Можам навучыць ахвотнага нечаму яшчэ.

– Прыбытак нашага прадпрыемства хочам выдаткоўваць на падтрымку Гродзенскага дзіцячага хоспіса, напрыклад, на закупку медыцынскага абсталявання і медыкаментаў. Менавіта тут усё і пачалося! Дырэктар хоспіса Вольга Вялічка з'яўляецца нашым ідэйным натхняльнікам. Гэта яна падказала выпусціць калекцыю адзення для людзей з інваліднасцю, калі ў 2015 годзе я прыйшла ў хоспіс як валанцёр, – дзеліцца Валянціна. – Наш праект па пашыве адаптыўнага адзення называецца "Коска". Маем на ўвазе, што ён не аднаразовы: пасля рэалізацыі ставім не кропку, а коску. У планах выпусціць не адну лінію адзення для людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

*Ангеліна Пакачайла*

# Дзелячыся – здабываем

**Кожны год у ІІ Нядзелю Адвэнту ва ўсіх парафіях у Польшчы збіраюцца ахвяраванні на праекты, якімі займаецца Таварыства дапамогі Касцёлу на Усходзе. У ліку тых, хто можа разлічваць на дапамогу, знаходзіцца і Касцёл Беларусі.**

**Пра вышэйзгаданую дабрачынную дзейнасць і дапамогу сёння распавядае кс. Лешэк Крыжа TChr, дырэктар Таварыства дапамогі Касцёлу на Усходзе.**



***– Кс. Лешэк, паўсюдна вядома, што заўсёды ёсць над чым папрацаваць і што ўдасканаліць у "сваім садзе". Аднак апрача пытанняў, якія трэба вырашыць у лакальным Касцёле, палякі працягваюць дапаможную далонь суседзям.***

– Трэба прызнацца, палякі ахвотна дзеляцца з бліжнімі, любяць дапамагаць. І асаблівымі адрасатамі гэтай дапамогі з'яўляюцца краіны, размешчаныя за нашай усходняй мяжой. Маю на ўвазе Беларусь, Літву, Расію, Казахстан і многія іншыя. Напэўна, гэта адбываецца па гістарычных, сямейных прычынах, але, думаю, і з чыста чалавечай і хрысціянскай салідарнасці. Тым больш, мы таксама былі краінай, якой дапамагалі, і пра гэта забывацца нельга.



*Таварыства дапамагае ў правядзенні разнастайных рэлігійных мерапрыемстваў і свят*

***– Як і калі ўзнікла ідэя заснавання асобнай арганізацыі, якая б займалася дапамогай Касцёлу на Усходзе?***

– Таварыства дапамогі Касцёлу на Усходзе пры сакратарыяце Канферэнцыі епіскапату Польшчы было створана ў 1989 годзе па ініцыятыве тагачаснага прымаса Польшчы кард. Юзафа Глемпа. Гэта быў адказ мясцовых біскупаў на гістарычны знак часу, якім была "перабудова", а ў выніку і распад СССР. Тады на суседніх землях пачаў адраджацца таксама Каталіцкі Касцёл. З Польшчы выехала вельмі шмат святароў і манаскіх сясцёр. Ім неабходна была духоўная, арганізацыйная і матэрыяльная дапамога не столькі для сябе, колькі, у першую чаргу, для ўзнікаючых парафіяльных супольнасцей. Такімі былі пачаткі.

***– Дапамогу якога тыпу аказвае Таварыства?***

– Першапачаткова гаворка ішла, у асноўным, аб рэмонтна-будаўнічых работах. Самым тэрміновым раней было хутка адбудаваць збураныя сакральныя аб'екты, каб парафіяне мелі ўласныя месцы для супольнай малітвы.

Аднак больш важным, патрэбным і надалей актуальным нароўні з матэрыяльнай адбудовай быў і застаецца клопат аб душах. Такім чынам, другі тып дапамогі, якую і сёння аказвае Таварыства, – гэта набыццё і перадача рэчаў, патрэбных для літургіі і рознага роду катэхетычнай працы.

Трэці тып дапамогі, таксама вельмі патрэбны, – харытатыўны: падтрымка дзіцячых дамоў, дамоў самотнай маці і дамоў састарэлых, грамадскіх цэнтраў, кухняў для бедных. Гэта служыць, перш за ўсё, інтэграцыі людзей, падчас якой будуюцца адносіны, узнікаюць блізкія сувязі, паўстае сяброўства.

Стараемся дапамагаць у арганізацыі адпачынку для дзяцей і моладзі, а таксама, па меры магчымасцей, ладзіць і падтрымліваць паломніцкую справу. На сёння Таварыства штогод рэалізуе каля 400 праектаў у самых розных сферах жыцця.

***– Якую канкрэтна дапамогу аказвае Таварыства ў Гродзенскай дыяцэзіі?***

– На працягу многіх гадоў падтрымліваем Касцёл на Гродзеншчыне ў справе абсталявання святынь адпаведнай мэбляй, гукавой сістэмай, літургічнымі прыладамі для цэлебрацыі св. Імшы ці іншых набажэнстваў. Стараемся таксама садзейнічаць у абсталяванні катэхетычных класаў, дзе адбываецца навучанне рэлігіі ці сустрэчы для малітоўных груп. Дапамагаем у арганізацыі шматлікіх душпастырскіх праектаў.



*Інвестыцыі ў развіццё інфраструктуры сацыяльна значных аб'ектаў з'яўляюцца адным з прыярытэтных накірункаў дзейнасці Таварыства*

Цешыць, што Каталіцкі Касцёл у Беларусі становіцца ўсё больш жывым і дынамічным. З боку – хоць і з такой невялікай адлегласці, якая раздзяляе Польшчу і Беларусь – добра бачна, што ён жыве і рухаецца наперад.

***– У ІІ Нядзелю Адвэнту, калі ў Польшчы збіраюцца ахвяраванні на карысць Касцёла на Усходзе, у Беларусі просяць Бога аб благаслаўленні і патрэбных ласках для дабрадзеяў і ахвярадаўцаў. У сувязі з гэтым біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч заклікае сваю паству памятаць у малітвах пра ўсіх тых, "хто ў жэсце хрысціянскай салідарнасці праз пасрэдніцтва Таварыства прыходзіць з бескарыслівай дапамогай для нашага лакальнага Касцёла".***

– Вялікі дзякуй за тое, што ў Вашым Касцёле існуе такая цудоўная ініцыятыва! Ваша малітва з'яўляецца найлепшай узнагародай і выразам удзячнасці. Гэта прыгожы знак і адначасова дар з Вашага боку! Прыемна ўсведамляць, што калі штосьці аддаём – атрымліваем, калі дзелімся – здабываем.

*Кс. Юрый Марціновіч і Ангеліна Пакачайла*




***Некалькі разоў у год на вялікія святы я прыязджаю на сваю малую радзіму – у аграгарадок Рэпля Ваўкавыскага раёна. Заўсёды прыходжу ў касцёл, каб памаліцца і падзякаваць Пану Богу, што жывая мама, што маю куды і да каго прыехаць.***

*Апошні раз была ў святыні на Вялікдзень. Касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі заўсёды меў прывабны знешні выгляд, аднак унутраны стан патрабаваў рамонту. Я была вельмі ўражана, калі наведала касцёл падчас урачыстасці Усіх Святых, была зачаравана знешнім убранствам святыні. Цяжка верылася, што з касцёлам за такі прамежак часу адбыліся такія кардынальныя змены. Святыня мела прыцягальны выгляд: прыгожая, свежая. Усё, што знаходзілася ў касцёле, заззяла, нібыта загаварыла і ажыло. Адноўленыя алтары выглядалі цудоўна. Усе дэкарацыі былі падабраны з любоўю, адпавядалі адно аднаму, рабілі касцёл утульным.*

*Адразу адчулася, колькі сіл і намаганняў уклалі ў гэтую працу парафіяне на чале з мясцовым пробашчам кс. Паўлам Стволам. Лічу, што святар з'яўляецца сапраўдным пастырам, пакліканым Богам. Ужо на працягу 4-ох гадоў ён апекуецца парафіяй у Рэплі, з'яўляецца ініцыятарам шматлікіх змен у касцёле, што датычаць аднаўлення святыні.*

*Дзякую ўсім людзям, якія разам з кс. Паўлам прычыніліся да рамонту касцёла, кожны дзень крок за крокам аднаўлялі і ўпрыгожвалі яго, а таксама парафіянам за складзеныя імі ахвяры.*

***Трэба зазначыць, што мясцовыя вернікі маюць яшчэ мноства задумак. У хуткім часе плануюцца працы на тэрыторыі касцёла. На сённяшні дзень галоўная мэта – аднавіць вежы, бо святыня з'яўляецца візітнай карткай аграгарадка Рэпля. Дай Бог сіл і натхнення! Спадзяюся, што да наступнага майго прыезду касцёл стане яшчэ больш прыгожым.***

*Аліна, парафіянка з Ваўкавыска*




Catholic.by

### *У Аўстрыі святкуюць 200-годдзе калядкі "Ціхая ноч"*

***З гэтай нагоды прадстаўнікі хрысціянства, ісламу, юдаізму і будызму сустрэліся ў Оберндорфе – месцы, дзе ўпершыню прагучала славутая калядка, каб разам маліцца за мір.***

*"Гэты твор павінен з'яднаць нас усіх, – падкрэслілі ўдзельнікі малітоўнай сустрэчы. – І хоць ніводзін радок з песні не ўтрымлівае слова «мір», але паўсюль, дзе выконвалася гэтая калядка, яна нагадвала, што жыццё ў падзелах ды варожасці не з'яўляецца годным чалавека".*

*Вядомая калядка "Ціхая ноч", якая ўпершыню прагучала ў 1818 годзе, ужо 2 сотні гадоў перадае таямніцу Божага Нараджэння. З нагоды яе юбілею ў Оберндорфе адкрыўся абноўлены музей "Ціхай ночы", чыгунка ў Зальцбургу надала аднаму са сваіх электрацягнікоў аднайменную назву, а аўстрыйская пошта выпусціла адмысловую марку.*




### *"100 шопак" у Ватыкане*

***Захавана традыцыйная міжнародная выстава "100 шопак", якой пагражала закрыццё. Яе мэта заключаецца ва ўратаванні ад забыцця італьянскага звычаю будаваць бэтлеемскія стаенкі.***

*"Мы шчаслівыя, таму што для нас найважнейшае – каб ініцыятыва працягвалася. Апошнім разам удалося прадставіць 152 шопкі з 42-юх краін і ўсіх рэгіёнаў Італіі. Экспануем традыцыйныя, дэкаратыўныя, а таксама фантазёрскія стаенкі, зробленыя, напрыклад, з прадметаў штодзённага ўжытку", – адзначыла Марыякарла Мэнаглія, дырэктар таварыства "Rivista delle Nazioni", якое ўжо больш за 40 гадоў арганізоўвае экспазіцыю.*

CatholicNews.by

### *Завяршылася акцыя "Папа для Украіны"*

***Спецыяльна да гэтай нагоды быў прымеркаваны візіт у Кіеў кард. Пітэра Тарксана, прэфекта Дыкастэрыі па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека. Прадстаўнік Святога Пасаду засведчыў аб блізкасці папы Францішка з украінскім народам.***

*За 2 гады гуманітарнай ініцыятывы ахвяры вайны на ўсходзе краіны атрымалі фінансавую падтрымку ў памеры 16 мільёнаў еўра. Дзякуючы грашовым сродкам, сабраным у касцёлах Еўропы, і рэсурсам з асабістага фонду Папы дапамагчы атрымалася каля 16-ці тысячам патрабуючых.*




## Якія галоўныя заданні святара ў сучасным свеце?

*Першая з задач сучаснага святара – прысутнічаць у жыцці тых, да каго яго пасылае Хрыстос. Мэтай гэтай прысутнасці ў свеце з’яўляецца евангелізацыя, г. зн. распаўсюджванне Добрай Навіны і вядзенне людзей да Бога, каб яны маглі захапіцца Хрыстом, Яго словамі і ўчынкамі, каб дастасоўвалі сваё жыццё да біблійных наказаў. І каб так сталася, а словы не засталіся толькі словамі, трэба каб Евангелле дайшло да свядомасці чалавека, а чалавек сваёй свядомасцю прытуліўся да Божага слова. Евангелізацыя патрабуе ад святара мужнасці, каб увесь час нанова супастаўляць сябе з вучэннем Езуса і – па прыкладзе Месіі – ісці да людзей найперш для таго, каб моўчкі любіць. Толькі бачная і ахвярная любоў святара садзейнічае таму, што людзі паслухаюць яго, а не маладых ідэолагаў ці цынічных дэмаралізатараў.*

*Другой важнай задачай сучаснага святара з’яўляюцца паглыбленыя пастырскія адносіны, а асаблівым чынам уменне такога падбору слоў і аргументаў, каб слухач меў толькі 2 магчымасці: зразумець і прыняць Божае слова ці зразумець і адкінуць яго. Не павінен мець 3-га варыянта: не зразумець Евангелле. Не можа ўзнікаць і 4-га, калі чалавек застаецца з ілюзіяй, што не Бог, а ён сам мае рацыю. Прыкладам такога эфектыўнага абвяшчэння Божага слова з’яўляецца Хрыстос, які камунікаваў і аргументаваў так проста і ясна, што Яго разумелі нават няграматныя, і адначасова гаварыў так дакладна, што кніжнікі і фарысеі не маглі абвінаваціць Яго ў якой-небудзь памылцы. Таму задача святара – спалучэнне мовы Бібліі і вучэння Касцёла з магчымасцямі ўспрыняцця і гарызонтамі мыслення сучаснай аўдыторыі. Кожнаму неабходна слова, дастасаванае менавіта да яго.*

*Трэцяя задача сучаснага святара – гэта асаблівая адчувальнасць да людзей бедных матэрыяльна, маральна і духоўна, а таксама да пакрыўджаных, залежных, прыгнечаных, бездапаможных. Бяздольнаму чалавеку патрэбны не толькі хлеб ці вопратка, але таксама слова суцяшэння, усмешка, прыязны жэст, у якім выражаецца эмпатыя. Яму неабходна кропля любові і зычлівасці, адчуванне, што ён не адзінокі, што нехта прагне раздзяліць з ім цярпенне.*

*Не менш важным заданнем з’яўляецца таксама ўмацаванне моцных, каб заставаліся ў прыязнасці з Богам і з людзьмі, бо трыванне ў добрым – нялёгкая справа.*

*Эфектыўная работа святара ўплывае на свядомасць сучасных людзей. Таму ён павінен добра адчуваць свет, у якім жыве, але не паддавацца яму; павінен валодаць вопытам жыццёвых і духоўных “тонаў” сучаснага жыцця, яго адценняў, а таксама тонкасцей. І, перш за ўсё, канешне павінен заставацца святаром Хрыста.*

*Кс. Ян Кузюк*
**Паводле grodnensis.by**

# БЛАСЛАЎЛЁНЫ ЗАКРЫСТЫЯНІН



***Папа Францішак апублікаваў дэкрэт аб гераічнасці цнот і пацвярджэнні спрадвечнага культу (т. зв. раўназначная беатыфікацыя) Слугі Божага Міхала Гедройца. Гэта азначае ўключэнне яго ў літургічны каляндар і дае дазвол на ўшанаванне новага благаслаўлёнага ў месцах, звязаных з яго жыццём і дзейнасцю.***

*Бл. Міхал Гедройц, які пакорна служыў таямніцы Эўхарыстыі, з’яўляецца заступнікам сясцёр ядзвіжанак вавэльскіх (Кангрэгацыя Сясцёр св. Каралевы Ядзвігі Служак Хрыста Прысутнага). Манахіні, якія маюць пры касцёле св. Марка ў Кракаве свой дом, прынялі ад Ордэна Канонікаў Рэгулярных, да якога належаў благаслаўлёны, характэрны белы хабіт са знакам чырвонага сэрца з крыжом.*

### КУЛЬГАВЫ

Бл. Міхал Гедройц нарадзіўся каля 1425 года ў мястэчку Гедрайчай недалёка Вільнюса (Літва). Паходзіў з сям’і літоўскіх князёў.

Быў невысокі, хваравіты, хадзіў на мыліцах. На падставе пазнейшага даследавання рэліквій было ўстаноўлена, што адна яго нага была карацейшай за другую. З-за гэтага хлопца называлі “кульгавым”, таму ён цярпеў з самага дзяцінства – не толькі фізічна, але і псіхічна.

Дзякуючы досведу свайго калецтва даспяваў да глыбокага разумення Мукі Хрыста і спачування пакутуючым людзям. У маладосці вырабляў посуд, у якім прыносілі хворым Найсвяцейшы Сакрамант. Пазбягаючы людзей, шмат часу прысвячаў на малітву.

### АДМОВІЎСЯ АД ЗЯМНЫХ УШАНАВАННЯЎ

У 1460 годзе Міхал Гедройц, будучы ўжо ў сталым узросце, уступіў у Ордэн Канонікаў Рэгулярных ад Пакуты ў Быстрыцы (сёння тэрыторыя Астравецкага раёна). Праз некалькі месяцаў быў скіраваны ў кляштар у Кракаве (Польшча), дзе праз некаторы час склаў манаскія абяцанні. У сувязі са сваім княжацкім паходжаннем, нягледзячы на калецтва, мог атрымаць святарскія пасвячэнні, аднак захацеў застацца “малым”, таму стаў братам. У 1461 годзе распачаў навучанне на факультэце гуманітарных навук Кракаўскай Акадэміі, якую скончыў са ступенню бакалаўра тэалогіі.

Будучы закрыстыянінам у касцёле св. Марка ў Кракаве, благаслаўлёны шмат часу прысвячаў сузіранню Мукі Хрыста. Маліўся галоўным чынам перад вялікім распяццем і перад абразом Найсвяцейшай Панны Марыі, які пазней назвалі абразом Маці Божай Гедройцавай.

Аднойчы Хрыстос, умацоўваючы манаха ў самаўтаймаванні і болю, звярнуўся да яго з крыжа: “Будзь цярплівы ажно да смерці – і атрымаеш карону славы”. Адзін з братоў, сведка незвычайнага здарэння, паведаміў пра гэта іншым, аднак бр. Міхал не хацеў нічога каментаваць і толькі перад смерцю расказаў усё свайму спаведніку.

### УСПРЫМАЛЬНЫ ДА ЛЮДСКОГА ЦЯРПЕННЯ

Пан Бог адарыў Міхала Гедройца прароцкім духам і ласкай здзяйсняць цуды. Хворыя натоўпамі ішлі да яго. Лічачы манаха “сябрам Бога”, людзі прасілі яго аб заступніцкай малітве, а той выпрошваў для іх цудоўныя ласкі ў хвіліны цяжкасцей і клопатаў. Цікаўныя прыбывалі таксама да манаха і пыталіся аб будучыні. Ён альбо дакараў іх, або пакорна казаў: “Гэта вядома толькі Богу. Ласку прарочання Ён часам удзяляе толькі вялікім сваім умілаваным, я ж вялікі грэшнік”.



Бр. Міхал баяўся каго-небудзь засмуціць. Калі адна маці спыталася ў яго пра далейшыя поспехі сваіх сыноў, доўга маўчаў. І толькі з-за таго, што тая моцна прасіла, адказаў, што адзін яе сын стане ксяндзом, а другі скончыць жыццё на абочыне. Прадказанне збылося, аднак ён вельмі шкадаваў, што такім чынам засмуціў тую жанчыну.

Бл. Міхал меў шчодрае і пакорлівае сэрца. Калі атрымліваў міласціну, перадаваў яе ўбогім ці на патрэбы кляштара і касцёла, нічога не пакідаючы сабе. Жыў у глыбокай аскезе: часта еў толькі хлеб з соллю, быў вегетарыянцам. Практыкаваў бічаванне цела – часта яго знаходзілі пабітым, што прыпісвалі ўздзеянню злога духа. Строгі лад жыцця з часам прывёў да знясілення арганізма і праблем са здароўем.

Калі жыццё манаха падыходзіла да канца, папрасіў пробашча і братоў, якія сабраліся ля ложка, каб прабачылі яму правіны і маліліся за яго. А на просьбу настаяцеля пакінуць братам збаўчую навуку, перш за ўсё, параіў ім любоў, гаворачы: “Дзе гэта ёсць, там і Пан Бог ёсць. Бог ёсць Любоў, і хто жыве ў любові, жыве ў Богу, а Бог – у ім”.

Памёр 4 мая 1485 года ў арэоле святасці. Пахаваны ў касцёле св. Марка, дзе на працягу многіх гадоў жыў і працаваў. Спачывае ў прэзбітэрыі каля ўваходу ў закрыстыю. На адной з фігурак, захаваных у гэтай святыні, благаслаўлёны мае непрапарцыянальна доўгія далоні. Такім сімвалічным чынам майстар хацеў паказаць, што рукі бл. Міхала Гедройца былі поўныя дабрыні і міласэрнасці, якімі ён пры жыцці шчодра дзяліўся.


*Падчас урачыстасці ўнясення рэліквій бл. Міхала Гедройца ў касцёл у Быстрыцы*

### КУЛЬТ ТРЫВАЎ НЕПАРЫЎНА

Адразу ж пасля смерці бр. Міхала праз яго заступніцтва пачалі адбывацца шматлікія цуды. Іх была такая вялікая колькасць, што пачалі складваць спіс. Аднак распачатыя намаганні аб узнясенні манаха да хвалы алтара не скончыліся поспехам, таму што Святая Канцылярыя з дазволу папы Урбана VIII выдала пастанову, якая абавязвала адмову яго публічнага культу. Гэтаму паспрыяў таксама роспуск ордэна, да якога належаў манах.

Нягледзячы на тое, культ бл. Міхала Гедройца не знік. Яго аднаўленню садзейнічаў шматгадовы рэктар кракаўскага касцёла св. Марка кс. праф. Вацлаў Свежаўскі, пазнейшы біскуп Сандомірскі. У 1985 годзе намаганнямі святара была падрыхтавана 10-гадовая навэнна да Міхала Гедройца. 11 мая таго ж года была адпраўлена ўрачыстая св. Імша ў намеры хуткай беатыфікацыі манаха. У 1998 годзе адбылося ўрачыстае закрыццё інфармацыйнага працэсу на дыяцэзіяльным узроўні ў справе зацвярджэння культу бр. Міхала, а ў 2001 годзе Апостальская Сталіца выдала дэкрэт “Nihil obstat”, які выражаў згоду на паўторнае распачацце яго беатыфікацыйнага працэсу.

У 2017 годзе галоўны пастулатар падаў “positio”, неабходнае для далейшай беатыфікацыйнай працэдуры. Пасля знаёмства з гэтым дакументам Кангрэгацыя па справах кананізацыі перадала прапанову пацвярджэння культу для заключэння Святому Айцу. 8 лістапада 2018 года папа Францішак пацвердзіў спрадвечны культ, здзяйсняючы т. зв. раўназначную беатыфікацыю. Яна прымяняецца ў сітуацыях, калі існуе доўгачасовы, спантанны культ дадзенай асобы, але правядзенне кананічнага працэсу немагчымае з-за недахопу дастатковых гістарычных крыніц.

### ШАНУЕМЫ Ў БЕЛАРУСІ

Памяць пра бл. Міхала Гедройца жыве не толькі ў Польшчы і Літве. У 2017 годзе рэліквіі благаслаўлёнага былі ўнесены ў касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў Быстрыцы. Бл. Міхал паходзіў з гэтых земляў. Дзякуючы з’яўленню яго рэліквій у святыні вернікі атрымалі новага заступніка. Сваю штодзённасць і просьбы яны з даверам даручаюць Богу праз заступніцтва благаслаўлёнага, звяртаючыся да яго ў розных патрэбах душы і цела.

*Кінга Красіцкая*

## НАВІНЫ



## 2 НОВЫЯ ПРЭЗБІТЭРЫ І 1 ДЫЯКАН У ГРОДЗЕНСКІМ КАСЦЁЛЕ!

Пасвячэнні прэзбітэрату атрымалі дк. Раман Вайцяховіч і дк. Эрнэст Мікалайчык, пасвячэнне дыяканату – кл. Віталій Валюк. Урачыстасць узначаліў у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя пастыр Касцёла на Гродзеншчыне кс. бп Аляксандр Кашкевіч.

У хуткім часе новапрэзбітэры ўзначалілі прыміцыйныя св. Імшы ў родных парафіях. Кс. Раман Вайцяховіч – у парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне, кс. Эрнэст Мікалайчык – у парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



З нагоды Сусветнага дня бедных біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч разам з дырэктарам "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі кс. д-р. Раманам Рачко наведаў Дом начнога прабывання для асоб без пэўнага месца жыхарства ў Гродне. У рамках візіту патрабуючыя атрымалі матэрыяльную і духоўную дапамогу.

Кс. бп Аляксандр асвяціў новы будынак Дома міласэрнасці ў Каменцы (дэканат Шчучын), пад апекай якога знаходзяцца хворыя і пажылыя людзі. У дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Воранава) іерарх асвяціў табернакль.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



З нагоды літургічнага ўспаміну св. Цэцыліі ў шматлікіх парафіях дыяцэзіі былі арганізаваны канцэрты. У смаргонскім араторыі імя св. Яна Боско пры парафіі св. Міхала Арханёла адбыўся VIII музычны фестываль "Цэцыліяда-2018". Там жа пазней прайшло свята, прысвечанае ўрачыстасці Хрыста, Валадара Сусвету. У парафіі св. апостала Якуба ў Цудзенішках (дэканат Ашмяны) быў арганізаваны канцэрт семінарыйнага гурта "AVE".

Даследчык Уладзімір Ляўшук выступіў у касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне з дакладам на тэму мэблі айцоў езуітаў, якая знаходзіцца ў катэдры.

У шматлікіх парафіях дыяцэзіі па традыцыі прайшлі Андрэйкі (забавы перад распачаццем Адвэнту).

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Група прадстаўнікоў Душпастырства чыгуначнікаў Гродзенскай дыяцэзіі на чале з душпастырам а. Эдуардам Пяцельчыцам CSsR прыняла ўдзел у XXXV Пілігрымцы чыгуначнікаў на Яснай Гары (Польшча). З нагоды літургічнага ўспаміну св. Кацярыны Александрыйскай, апякункі супольнасці, члены Душпастырства чыгуначнікаў Гродзенскай дыяцэзіі сустрэлася ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне.

Тыдзень талентаў арганізавала душпастырства моладзі "OPEN". Члены супольнасці мелі магчымасць падзяліцца сваімі здольнасцямі ў вобласці кулінарыі, рукадзелля, літаратурнага, музычнага і выяўленчага мастацтва.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Выпускнікі Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі 2005 года сустрэліся на супольнай малітве ўдзячнасці за дар святарства ў парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Кемелішках (дэканат Астравец). • Чарговы дзень засяроджання святароў, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі, адбыўся ў лідскай парафіі Святой Сям'і. • Літургічная служба алтара павялічылася ў парафіях св. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі, св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне і Святога Духа ў Гродне. • Прэзентацыя першага поўнага афіцыйнага рыма-каталіцкага выдання Новага Запавету на беларускай мове адбылася ў Навагрудскай раённай бібліятэцы. • "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі распачаў традыцыйную дабрачынную акцыю "Вігілійная свечка".

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

## АНОНСЫ

### ТРАКЕЛЬСКІ САНКТУАРЫЙ АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС!

**Дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях аб'яўляе конкурс на лепшы верш, песню ці відэаролік на тэму "Маці Божая Тракельская, вядзі нас за сабой".**

Конкурс праводзіцца ў 3-ох узроставых групах:

– дзеці (да 16-ці гадоў);
– моладзь (ад 16-ці да 30-ці гадоў);
– дарослыя (ад 30-ці гадоў).

Свае творы можна дасылаць да 2 лютага 2019 г. на электронную скрыню trokiele@tut.by або па пошце на адрас: в. Тракелі, вул. Лідская, д. 61А, 231372, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць – а таксама ў асабістых паведамленнях у сацыяльных сетках: vk.com/sanctuarytrokeli, instagram.com/sanktuaryimatsi. Работы неабходна суправадзіць подпісам, указаўшы сваё імя, прозвішча, узрост і адрас пражывання.

*Пасля падвядзення вынікаў у тракельскім санктуарыі адбудзецца св. Імша ў інтэнцыі ўсіх удзельнікаў конкурсу, якую ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Лепшыя творы будуць надрукаваны ў спецыяльна выдадзенай з гэтай нагоды кнізе.*

### УДЗЕЛЬНІКІ ПІЛІГРЫМКІ ГРОДНА–РОСЬ І ВАЛАНЦЁРЫ ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ДНЯ ДЗІЦЯЦІ ЗАПРАШАЮЦЦА НА АПЛАТКАВУЮ СУСТРЭЧУ

**Спатканне адбудзецца 26 снежня ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікрараён Паўднёвы).**

Праграма:
19.00 – св. Імша ў інтэнцыі ўдзельнікаў пілігрымкі, валанцёраў і ахвярадаўцаў;
20.00 – дзяленне аплаткай, салодкі пачастунак у дольным касцёле.

У праграме сустрэчы запланавана віншавальная частка з нагоды свят Божага Нараджэння і спеў калядак.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 784-05-72, кс. Юрый Марціновіч.*

### ГРОДЗЕНСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ РЫХТУЕ АЛЬБОМ ПРА ГІСТОРЫЮ ПРЫДАРОЖНЫХ КРЫЖОЎ

**Працягваецца збор матэрыялаў, неабходных для рэалізацыі праекта!**

Нярэдка ў калектыўнай памяці мясцовых жыхароў клапатліва захоўваюцца і перадаюцца з пакалення ў пакаленне цікавыя і ўзрушальныя гісторыі, звязаныя з асобнымі крыжамі.

У сувязі з гэтым вернікі Гродзенскай дыяцэзіі запрашаюцца да збору і перадачы ўсякай інфармацыі, якая датычыць крыжоў, што знаходзяцца на тэрыторыі іх парафій. Гэта могуць быць, напрыклад, архіўныя дакументы, успаміны і сведчанні парафіян, сучасныя ці гістарычныя здымкі.

*Матэрыялы неабходна асабіста дастаўляць у дыяцэзіяльную курыю ў Гродне (можна перадаваць праз сваіх душпастыраў) або дасылаць на электронны адрас: grodnensis@gmail.com, пазначыўшы тэму ліста як "Прыдарожныя крыжы".*

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, **спадара Шыдлоўскага Генадзія Эдуардавіча,** які 22 жніўня 1998 года ў парафіяльным касцёле Беззаганнага Зачацця НПМ у Гродне ўзяў шлюб **са спадарыняй Арыставай Ірынай,** просім з'явіцца ў сядзібу суда ў Гродне: **вул. К. Маркса, 4, або патэлефанаваць: (8-0152) 75-64-37.**

*Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці іншую інфармацыю аб месцы знаходжання Шыдлоўскага Генадзія Эдуардавіча, просім паведаміць у Касцёльны суд.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**6 снежня 2001 г.** – кс. прэлат Алаізій Тамковіч, *проб. Астравец;*
**9 снежня 1942 г.** – кс. Ян Селевіч, *проб. Варняны;*
**9 снежня 1958 г.** – кс. Ян Славінскі, *проб. Поразава;*
**13 снежня 1997 г.** – кс. Юзаф Рагінскі, *проб. Лаздуны;*
**14 снежня 2006 г.** – кс. прэлат Мар'ян Шчэнсны, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**16 снежня 1975 г.** – а. Аркадзь Вальтась OFMConv., *проб. Гродна.*

## Каляндар падзей

***2 снежня***
*І Нядзеля Адвэнту. Пачатак новага літургічнага года. Заахвочваем да набожнага і цвярозага перажывання гэтага перыяду.*

***3 снежня***
*Успамін св. Францішка Ксаверыя, прэзбітэра.*

***5 снежня***
*Гадавіна асвячэння катэдральнай базілікі ў Гродне.*

***7 снежня***
*Успамін св. Амброзія, біскупа і доктара Касцёла.*

***8 снежня***
*Урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

***9 снежня***
*ІІ Нядзеля Адвэнту. Дыяцэзіяльны дзень малітвы за ўсіх дабрадзеяў Касцёла.*

***13 снежня***
*Успамін св. Люцыі, панны і мучаніцы.*

***14 снежня***
*Успамін св. Яна ад Крыжа, прэзбітэра і доктара Касцёла.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Снежань***

*Каб людзі, уцягнутыя ў залежнасць алкагалізму, наркаманіі і ў іншыя "язвы" нашага грамадства, усвядомілі зло свайго жыцця і вярнуліся да Пана.*

Дзіцячы куточак

## Знайдзіце месца ў сваіх сэрцах

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Сёння прапаную паразважаць на вельмі сур'ёзную і балючую тэму. У нашым свеце шмат людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Хтосьці з іх не можа хадзіць, хтосьці – гаварыць. Ёсць і тыя, хто, здавалася б, не можа нічога. Як жа гэтым "асаблівым" людзям жывецца ў свеце?*

*Насамрэч, вельмі цяжка. Нават блізкія і родныя не заўсёды могуць ім дапамагчы. Таму такім людзям вельмі патрэбна не толькі наша спачуванне, але і наша падтрымка. А яшчэ яны моцна прагнуць, каб да іх адносіліся як да роўных.*

*З гэтай нагоды хачу распавесці Табе, дарагі Дружа, прыпавесць пра асаблівае кацяня і асаблівага хлопчыка.*

***Прадавец адной невялікай крамы прымацаваў ля ўваходу аб'яву: "Прадаюцца кацяняты". Аднойчы ў краму ўвайшоў хлопчык. Ён нясмела спытаўся аб цане на кацянят.***

***– Каштуюць ад 30-ці да 50-ці рублёў, – адказаў прадавец.***

***– У мяне толькі 2 рублі цяпер, – сумна сказаў хлопчык. – А ці можна мне толькі зірнуць на іх?***

***Прадавец усміхнуўся і дастаў кацянят. Апынуўшыся на волі, кацяняты жвава заварушыліся. Толькі адзін з іх адставаў ад усіх і неяк дзіўна падцягваў заднюю лапку.***

***– Скажыце, а што з гэтым кацянём? – спытаў хлопчык.***

***Прадавец адказаў, што той мае дэфект лапкі, які застанецца на ўсё жыццё. Тады хлопчык чамусьці вельмі захваляваўся.***

***– Вось яго я і хацеў бы набыць, – упэўнена сказаў ён.***

***– Ты смяешся? – здзівіўся прадавец. – Гэта ж хворае кацяня! Навошта яно табе? Зрэшты, калі ты такі міласэрны, то забірай дарма. Я табе яго і так аддам.***

***– Не, я не хачу браць дарма! Гэтае кацяня каштуе роўна столькі ж, колькі і іншыя. І я гатовы заплаціць поўную цану. Я прынясу Вам грошы пазней, – цвёрда дадаў хлопчык.***

***Сэрца прадаўца завагалася.***

***– Сынок, ты проста не разумееш усяго, – асцярожна дадаў ён. – Гэты небарака ніколі не зможа бегаць, гуляць і скакаць, як іншыя кацяняты.***

***Пры гэтых словах хлопчык стаў заварочваць калашыну, каб прадавец мог убачыць: замест левай нагі ў яго быў металічны пратэз.***

***– Я таксама ніколі не змагу бегаць і скакаць. І гэтаму кацяняці патрэбен хтосьці, хто б яго разумеў і падтрымліваў, – дрыжачым голасам вымавіў хлопчык.***

***Вочы дарослага чалавека напоўніліся слязьмі. Крыху памаўчаўшы, прадавец прымусіў сябе ўсміхнуцца.***

***– Сынок, я буду маліцца, каб ва ўсіх кацянят былі такія ж спагадлівыя гаспадары, як ты, – сказаў ён.***

*Няхай сардэчнасць гэтага хлопчыка будзе прыкладам для Цябе, Маленькі Чытач. Памятай, што вакол шмат асаблівых людзей, якім вельмі патрэбна Тваё разуменне і падтрымка. Не бойся спыніцца і затрымацца каля іх. Знайдзі для такіх людзей месца ў сваім сэрцы.*

**Заданне:** ***падзякуй Пану Богу за сваё здароўе і памаліся за людзей з абмежаванымі магчымасцямі; падчас нядзельнай св. Імшы ахвяруй Усявышняму свае добрыя ўчынкі ў адносінах да такіх людзей.***

*Ганна Паўлюкевіч, член Асацыяцыі Марыі Успамогі Вернікаў са Смаргоні*

## Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Вітэку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і цярплівасці, радасці і аптымізму на кожны дзень.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Воранава*

**Паважанаму Айцу Андрэю Агелю**

з нагоды Імянін складаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас шчодрымі ласкамі, а святы Заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам. Жадаем здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ліды*

**Паважаным Айцам Андрэю Врублеўскаму і Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем добрага здароўя, радасці, сіл, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы. Няхай Святы Дух ніколі Вас не пакідае, Маці Божая моцна трымае за руку, а святы Заступнік заўсёды будзе побач і дапамагае годна перажываць кожны дзень.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Гродна-Дзевятоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, людской добразычлівасці і мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.

*Парафіяне з капліцы ў Масалянах*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, а таксама зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху.

*Парафіяне з Ішчолна*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваім блаславеннем, а Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом міласэрнасці.

*Парафіяне з Малой Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў. Няхай Пан асвячае Ваш жыццёвы шлях, узмацняе сэрца, каб прамоўленае Вамі Слова станавілася моцай нашай веры, дадае сілы, каб вытрымалі ўсе цяжкасці ў будаванні касцёла. Дзякуем за спагадлівасць, клопат аб парафіянах і святыні, мудрыя казанні і за добрае сэрца. Дзякуем Вашай маме за сына святара.

*Апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў працы на ніве Пана, а таксама Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху, апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень і добразычлівых людзей побач.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Бярозаўкі і Мінойтаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем душэўнага супакою, цярплівасці, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, поспехаў у душпастырскай працы і шчодрых Божых ласкаў. Мы ўдзячны Пану Богу за тое, што ў нас служыць шчыры ў малітве і ў працы святар, які вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі і заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу. Дзякуем за паслугу ў нашай парафіі, мудрыя казанні, цярплівасць, клопат пра людзей, а Вашай маме – за сына святара.

*Вернікі з парафіі Дзятлава*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, шчасця і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай міласэрны Бог блаславіць кожны момант Вашага жыцця, Езус падтрымлівае ва ўсім, Найсвяцейшая Маці апекуецца і дапамагае ў складаныя хвіліны жыцця, Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, а святы Заступнік моліцца за Вас перад Божым тронам.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады, шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас сваёй мацярынскай апекай і ласкай. Дзякуем за паслугу ў нашай парафіі і супольнасці, за мудрыя словы, добрае сэрца і цудоўны прыклад веры.

*Касцёльны хор, закрыстыянін Здзіслаў, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа, а таксама штодзённай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай здароўе, шчасце і радасць заўсёды госцяць у Вашым доме, усемагутны Бог узнагароджвае за шчырыя малітвы, прыклад набожнасці і ўсе намаганні, якія прыкладваеце, клапоцячыся аб будаўніцтве Божага дома.

*Ружанцовыя колы, апостальства "Маргарытка" і вернікі з Радуні*

**Паважанаму Айцу Андрэю Зую**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе напоўнены супакоем і Божым блаславеннем, побач будуць добразычлівыя людзі, а здароўе, радасць і поспех ніколі не пакідаюць. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, а таксама няспыннай апекі Панны Марыі.

*Францысканскі ордэн свецкіх і парафіяне з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Айцу Андрэю Зую**

з нагоды Імянін жадаем усяго найлепшага. Няхай Пан Бог адорвае сваімі ласкамі, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а Святы Дух спасылае шчодрыя дары. Жадаем таксама моцнага здароўя, непахіснай надзеі, нязгаснай веры і нястомнасці ў душпастырскай працы.

*Жыхары в. Некрашы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Імянін жадаем радасці і шчасця, спакойных дзён, здзяйснення ўсіх мар, задавальнення ад выконваемай паслугі. Няхай Хрыстос прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца ды адорыць блаславеннем і здароўем, а промні Божай любові і міласэрнасці асвячаюць кожны дзень жыцця.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Рандзілаўшчыны і Казлоўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні.

Цяжка думкі<br>
выказаць словамі,<br>
Пяром пажаданняў<br>
аддаць хараство,<br>
Вымавіць тое,<br>
што ў сэрцы ўтоена...<br>
Коратка скажам:<br>
жыві 100 гадоў!

*Былыя парафіяне са Мсцібава*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, мужнасці і задавальнення ад святарскай паслугі, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Найсвяцейшая Маці вядзе Вас найлепшай дарогай да святасці, а міласэрны Езус апраменьвае сваім святлом. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах і ўдзячны Пану Богу за сустрэчу з Вамі.

*Былыя парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Луконіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, стойкасцю і сілай, Маці Божая апекуецца, а Святы Дух спасылае свае дары і дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу. Дзякуем за Вашы малітвы, ахвярную працу пры будаванні святыні, добрае сэрца, мудрыя павучанні, цудоўны прыклад веры і набожнасці.

*Касцёльны камітэт з парафіі св. Максіміліяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, зычлівых людзей побач, душэўнага супакою, нястомнай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом, каб маглі шчасліва выконваць сваю паслугу і радаваць усіх добрай усмешкай.

*Сем'і Стэцкевіч і Васільевых*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Роўбу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславення, здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Найсвяцейшая Маці вядзе Вас найлепшай дарогай да святасці, а міласэрны Езус апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень.

*Касцёльны камітэт з в. Вавёрка*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Лішко**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан бласлаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці заўсёды ахінае сваёй апекай. Жадаем сапраўднай радасці, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсім, шчасця і душэўнага супакою. Няхай Божае слова, якое засейваеце ў сэрцах вернікаў, прыносіць шчодры плён.

*Парафіяне з касцёла Божай Міласэрнасці ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зайко**

з нагоды Імянін шчыра жадаем шматлікіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, штодзённай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама добрага настрою, верных сяброў, падтрымкі ад родных і блізкіх людзей. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена дабрынёй і любоўю, якімі ніколі не баіцеся дзяліцца з намі.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін у жыцці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца.

*Парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Каўшуку**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваша вера будзе непахіснай, як скалы, надзея – гарачэйшай, чым сонца, любоў – дасканалай, як любоў нашага Пана. Няхай Усемагутны ўзмацняе Вас на выбраным шляху, Святы Дух шчодра адорвае дарамі для пашырэння Божага Валадарства сярод вернікаў, а Марыя з мацярынскім клопатам вядзе да святасці.

*Моладзь з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Вайцяховічу**

з нагоды прэзбітэрскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Святы Дух умацоўвае Вашу душу і цела, Маці Божая прытуляе да свайго Найсвяцейшага Сэрца, а Езус Хрыстус адорвае блаславеннем і ўдзяляе мноства ласкаў. Будзьце добрым святаром!

*Апостальства "Маргарытка" і Ружанцовае кола за дзяцей з Забалаці*

**Паважаным Ксяндзам Андрэю Каўшуку, Анджэю Ганчару і Андрэю Бялаблоцкаму**

з нагоды Імянін перадаём сардэчныя пажаданні: здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, апекі Панны Марыі, дапамогі святога Заступніка. Няхай Святы Дух асвячае Вашу святарскую паслугу, Хрыстос заўсёды будзе Сябрам, а служэнне Богу і людзям прыносіць радасць і шчодры плён.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла, Алена Гальчэня; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6138; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная